У родным краю, як у раю

# Дзядзінец

№1, восень 2000

краязнаўчы бюлетэнь Гарадзеншчыны

## Ад Рэдакцыі

Калісьці нашыя продкі будавалі вялікія й добраўмацаваныя цьверадзі-дзядзінцы, у якіх ратаваліся ад варожых нападаў ды ўсялякіх пошасьцяў. Там жа знаходзілі сабе месца і шматлікія гандляры, якія прывозілі на продаж з усяго сьвету самыя розныя цуды ды нябачныя дагэтуль тавары. Месьціліся пад магутнымі мурамі й майстры-рамесьнікі, з-пад рук якіх зьяўляліся гліняныя жбаны ды кахля, вострыя мячы ды кальчугі, бурштынавыя пацеркі ды срэбраныя бранзалеты. А ў невялічкіх кельлях, дзесьці наводшыбе, у дрыготкім сьвятле таненькае сьвечкі сівыя манахі-летапісцы старанна выводзілі на выробленай скуры прыгожа закручаныя літары, занатоўваючы для нашчадкаў найзначнейшыя падзеі ў жыцьці Краю...

Мы спадзяемся, што "Дзядзінец" станецца гэткай жа цьверадзяй, у якой знойдуць сваё месца й Мінуўшчына, і Сучаснасьць, і Будучыня нашага агульнага Краю. Бо з гэткіх невялічкіх цьверадзяў і пачынаецца тое, што называецца Радзімай.

Дык давайце будаваць наш "Дзядзінец" разам!



Фота Аляксандра Кузьнянцова



Тэма нумару

## Восень нашага сумленьня

**Восень...**

**Дрэвы ўжо паўбіраліся ў залатыя шаты, якія, праўда, штоноч паціху расьцягвае нябачны злодзей - халодны кастрычніцкі вецер. Сьцюдзёныя лужыны ўдзень яшчэ пабліскваюць сваімі бляклымі шэрымі вачыма, але вось ужо каторы раз пад ранак і яны прыгледжваюцца да празрыстых ледзяных кашулек ды спаднічак...**

**Гэтая дзіўная пара падводзіць вынікі цэлага году: зьбірае ўвесь плён вясновага ды летняга жыцьця, які потым дапаможа ператрываць доўгую суворую зіму, а таксама адзначае памылкі й аблуды, пра якія аніяк нельга проста ўзяць і забыцца...**



## У летапіс

**Зь 1 па 20 жніўня адбылася краязнаўчая экспэдыцыя ў Сапоцкінскую зону, арганізаваная лябараторыяй рэгіянальнай культуры ГарДУ.**

*Мэтай экспэдыцыі было ўсебаковае дасьледваньне Сапоцкінскага рэгіёну. Удзельнікі, што пасяліліся ў вясковай школе ў Сонічах, рабілі анкетаваньне насельніцтва, праводзілі спэцыфічныя тэсты, запісвалі песьні й паданьні, займаліся пошукавай дзейнасьцю.*

*Экспэдыцыя будзе мець працяг яшчэ наступныя два гады.*

**Сяржук Кузьняцоў**

**3 верасьня ў Дамброўцы, што над Аўгустоўскім каналам, адбылася традыцыйная імпрэза "Аўгустоўскі канал у культуры трох народаў".**

*Гэтая міжнародная сустрэча ўжо трэці раз зьбірае разам людзей зь Беларусі, Летувы й Польшчы. Сярод гуртоў, якія выступалі тут, былі й прадстаўнікі Горадні, Путрышак, Радуні й Сапоцкіна.*

*Сёлетняя сустрэча была прысьвечаная памяці Францішка Вітовіча, распачынальніка сьвяткаваньняў у Дамброўцы. Усіх тых, хто сабраўся гэтым разам у прыгожым куточку Гарадзеншчыны, між іншым, прывітаў выканаўца абавязкаў старшыні Саюзу палякаў у Беларусі Юзэф Пажэцкі наступнымі словамі: "Ужо трэці раз сустракаюцца тут беларусы, палякі й летувісы, каб паказаць сваю культуру й мову, якая шмат гадоў ужо гучыць над Каналам. Сёньня, як і раней, задзіночваюцца культуры трох народаў, ствараючы неад'емную частку гэтай зямлі".*

**Алена Мядзьведзік**

**17 верасьня споўнілася 170 гадоў Гарадзенскай абласной бібліятэцы імя Яўхіма Карскага, найстарэйшай публічнай кніжні ў Беларусі.**

*З гэтае нагоды 20 верасьня ў Новым Замку адбылася навукова-практычная канфэрэнцыя "Бібліятэка – жывая гісторыя стагодзьдзяў." Удзел у канфэрэнцыі ўзялі дырэктар НБРБ Г.М.Алейнік, старшыня Гарадзенскай краязнаўчай арганізацыі прафэсар А.Г. Майсіёнак, дырэктарка ГАІБ Л.В. Мальцава, а таксама прадстаўнікі аблвыканкаму й ГарДУ. Асноўнай тэмай сталася гісторыя й сучаснасьць бібліятэкі. А па абедзе ў Абласным драматычным тэатры адбыўся ўрачысты сход.*

*Адначасова, да юбілею кніжні быў выдадзены бібліяграфічны даведнік.*

**Уладзіслаў Івановіч**



## А ў нас у маёнтку

# У «Зьнічы» згарэла ўсё. Усё апроч надзеяў...

**Сяржук Кузьняцоў, Валеры Руселік**

А пачалося ўсё так.

У траўні 1998-ага ў Гарадзенскім Маладым Фронце насьпела патрэба ў структурных зьменах. Арганізацыя была падзеленая на некалькі суполак, і адной з буйнейшых зь іх сталася гістарычная.

Напачатку кастрычніка адбыўся I Ўстаноўчы Сход суполкі, якая ўжо тады займела назоў "Дзедзічы". Пазьней мы тлумачылі яго наступным чынам: "Дзедзіч" літаральна азначае "спадкаемца". Кожны з нас паасобку і ўсе мы разам атрымалі ад папярэдніх пакаленьняў нашую маленькую Радзіму (места, мястэчка, вёску), і нашая задача, вобразна кажучы, ня толькі захаваць яе для нашчадкаў, але й знайсьці, даведацца пра тое, што было згублена папярэднімі пакаленьнямі. Мы вывучаем нашую спадчыну, а той, хто атрымлівае спадчыну, і называецца "дзедзічам".

Першым вялікім праектам стаў бюлетэнь "Зьніч". Усе сілы былі кінутыя на гэтае выданьне. Усе пагадзіліся, што асноўнай дзейнасьцю нашае арганізацыі мусіў быць выпуск газэткі "Зьніч". Першы нумар (на думку аўтараў гэтага артыкулу, лепшы з усіх выдадзеных нагул) зьявіўся ў студзені 1999 году. І хоць вялікага выбуху не было, заўважылі, назвалі арганізацыяй зь вялікай пэрспэктывай.

Але...

З кожным нумарам "Зьніч" усё больш паглыбляўся ў цьмяныя для неспрактыкаванага абывателя нетры гістарычных энцыкляпэдыяў і даведнікаў, звужваючы кола чытачоў да навучэнцаў гістфаку і прафэсійных гісторыкаў. Мэта папулярызацыі краязнаўства сярод моладзі, акрэсьленая яшчэ на самым пачатку ўтварэньня "Дзедзічаў", рабілася ўсё больш недасягальнай. У гістарычную навуку зацягнулася ўся арганізацыя. Гэта пры тым, што большасьць сябраў на гістфаку не вучылася й імкнулася да працы ў іншых кірунках: філялёгіі, этнаграфіі, працы з моладзьдзю, перакладніцкай дзейнасьці й інш.

Таму й былі спробы зрабіць нешта масавае, папулярнае. Першай падобнай акцыяй сталася "Чарнобыльская малітва", арганізаваная дзяўчатамі зь "Дзедзічаў" у чарговую гадавіну трагедыі. Гэтае мерапрыемства, праведзенае ў сьценах корпусу беларускае і славянскае філялёгіі ГарДУ, было сапраўдным прарывам! Пра маладых гарадзенскіх краязнаўцаў загаварылі, аб іх пачалі пісаць у газэтах ("Беларуская маладзёжная" друкавала пра нас усё і зь любое нагоды).

Тым ня менш, рэдакцыі "Зьнічу", якая на той час стырнавала арганізацыяй, падобныя акцыі здаваліся зусім непатрэбнымі (адна з цытатаў галоўнага рэдактара бюлетэню Івана Лялевіча: "Гэткага папулізму ў нас больш ня будзе!" – заўважым, што словы "папулізм" і "папулярнасьць" маюць выразныя сэмантычныя адрозьненьні). Тады й пачаў насьпяваць першы сур'ёзны канфлікт паміж прыхільнікамі розных кірункаў дзейнасьці.

Потым зьявіліся і праблемы ў міжасабовых дачыненьнях, якія ўпершыню ўзьніклі падчас этнаграфічнае экспэдыцыі, зладжанай "дзедзічамі" ў жніўні 99-ага. Хібы ў падрыхтоўцы да двохтыднёвае напружанае працы ў палявых умовах, пагардлівае стаўленьне да астатніх удзельнікаў экспэдыцыі, гістэрычны пошук кампрамату ў гэтай "чыста папулісцкай" акцыі й недаравальная безалябэрнасьць з боку тагачаснага кіраўніцтва "Дзедзічаў" (чытай – рэдакцыі "Зьнічу") яшчэ больш падагрэлі гэны канфлікт.

З кожным новым днём усё цяжэй было не заўважыць, што "зьнічоўцаў" (на той момант галоўны рэдактар бюлетэню з сваімі паплечнікамі да такое ступені адасобіўся ад астатніх краязнаўцаў-"дзедзічаў", што аб'яднаўваца пад адным найменьнем ужо не было ніякага сэнсу) зусім не цікавіць далейшы лёс




расколатае арганізацыі. Адзінае, што іх яшчэ трымала, - непераадольнае імкненьне выціснуць зь "Дзедзічаў" як мага болей матэрыяльных сродкаў дзеля ўласнае карысьці.

Чацьверты нумар "Зьнічу" арганізацыя ня ўбачыла. Рэдакцыя бюлетэню нават не палічыла гэта патрэбным, заявіўшы, што гэта ўжо бюлетэнь ня "Дзедзічаў", а "гарадзенскай моладзі".

Ужо нішто не магло выратаваць арганізацыю. Не дапамагло й абраньне новага кіраўніцтва, якое стаяла на нэўтральных пазыцыях. Усе ягоныя спробы аб'яднаць арганізацыю ў вадну "сям'ю" дэманстратыўна ігнараваліся папярэднім кіраўніком і ягонымі паплечнікамі.

Зь лютага 2000 году рэдакцыя пачала зьбірацца асобна, каб ніхто "ніхто не перашкаджаў працы "Дзедзічаў" сваімі няправільнымі пазыцыямі".

Адмова ў рэгістрацыі, што прыйшла з Упраўленьня юстыцыі ў траўні, забіла апошні цьвік у труну арганізацыі...

Зараз мы ўсё пачынаем спачатку. Рэдакцыя "Зьнічу" працуе асобна. У яе складзе чатыры былых "дзедзіча". Мы спрабуем рабіць нешта сваё. Так, як мы гэта разумеем. У нас толькі пяць "дзедзічаў", астатнія – новыя людзі.

А яшчэ ёсьць людзі, якія, расчараваўшыся ў "Дзедзічах", наагул расчараваліся ў беларушчыне.

А перад намі стаяць усё тыя самыя мэты. Тое самае пашырэньне маладзёвага краязнаўчага руху.

Гэта будзе даволі цяжка пасьля двох гадоў, згубленых у бессэнсоўных спрэчках і разборках... Але мы пастараемся!



За сьпінай – места

# Спадчына ў руінах

Глеб Канунькікаў, Ясь Сьлівінскі

**Праходзячы ля *"ПРЫЁРбанку"* й бровару да ўзьбярэжжа Нёману, гарадзенцы ўжо колькі месяцаў могуць назіраць невясёлае відовішча: руіны гістарычнага будынку з аблокамі замест шыбаў у ваконных праёмах. Камяніца ў цэлым выглядзе існуе ўжо выключна на рысунках ды справаздачах будаўнічай канторы, якая выканала нядаўнюю рэстаўрацыю. Рамонт будынку ня вытрываў: прыкладна год таму пажар зьнішчыў драўляныя часткі нежылога ўжо дома, і сьцены абрынуліся, загрувашчваючы палову вуліцы...**



Фотаздымкі Сержука Кузьняцова



Дом быў пабудаваны ў пачатку XX ст., верагодна да 1914 году. Ён перажыў дзьве сьветавыя вайны, паўстагодзьдзя савецкага ладу зь ягоным адмысловым стаўленьнем да гістарычнае спадчыны, сучасную рэканструкцыю. Падчас II сьветавай вайны каля будынку разарвалася бомба, ад чаго ў фасадзе зьявілася расколіна, якая і сталася фатальнай. Тым ня менш, у будынку яшчэ да нядаўняга часу жылі людзі. Паколькі будынак уяўляў гістарычна-архітэктурную каштоўнасьць(частка забудовы цэнтру места), рабіць рамонт самым людзям забаранялася. Так і жылі яны ў аварыйным будынку, чакалі рэстаўрацыі.

Надзея на яе зьявілася разам зь зьяўленьнем цэнтралізаванага пляну вялікай рэстаўрацыі цэнтру места. Таго самага пляну, паводле якога цэнтральныя вуліцы павінны былі стаць брукаваныя, дамы – атрымаць другое жыцьцё, а ў цэнтры – зьявіцца дзясяткі кавярняў і рэстарнчыкаў.

Як часта бывае, плян застаўся на паперы: па вядомых прычынах эўрапейскія структуры спынілі фінансаваньне праекту. Усе праблемы засталіся на сваіх месцах.

Зь цягам часу была адменена забарона на прыватызацыю архітэктурных помнікаў. Тады было дзьве спробы разьвязаць лёс будыніны. Аднак ні першая – перадача ўва ўласнасьць бровару, ні другая спроба – прыватызацыйныя аўкцыёны – нічога не далі. Нікому ня быў патрэбны дом ў аварыйным стане.

У 1999 годзе была праведзена рэстаўрацыя. Аднак неўзабаве, пасьля пажару, будынак ня вытрымаў і абрынуў...

Зараз разваленыны дом з сумам чакае тых часоў, калі ў ім зноў загучаць чалавечыя галасы.

Аднак, як мы даведаліся, рэканструкцыя будынка ў бліжэйшым часе не прадбачыцца.




# Як рускія балявалі або Кароткая гісторыя вёскі Зарачанка

***Гады тры таму гарадзенскія маладыя краязнаўцы распачалі файную традыцыю напачатку жніўня ладзіць этнаграфічныя экспэдыцыі па ваколіцах места. Падчас гэтых вандровак апроч непаўторных уражаньняў увесь час назапашваецца дужа фальклёрных матэрыялаў, якія рэдакцыя й вырашыла прапанаваць сваім чытачам.***

***Гэтым разам мы знаёмім вас з успамінамі бабкі Эўкі зь вёскі Зарачанка (Баля Касьцельна) 1925 году нараджэньня.***

Сабраў і занатаваў
**Валеры Руселік**

### Як жылі

Як пры паляках жылі? Ужэ ў такіх малых хатах. Хаты былі – саломаю крышы крытыя. Ні было ніякіх ні фабрыкаў, нічога. Мелі трохо свае зямле. І так ужэ пры ком жылі... Як якое вяселя, ну то вот там! Я помню, сястра выходзіла замуж,Ужэ яна старэнька, ужэ ёй дзевяноста друті рок. То што, купілі дваццаць літраў водкі. Купляла: тадэ самагонкі ніхто не гнаў. Паехалі купілі такі быў кіслы хлеб, сьпяклі трошкі сваіх булак. Зварыли мяса. У балейку налілі квашаніны. Што сьціралі – тако была драўняна балейка. Не было такіх жалезных, як цяпер. І потым накладалі гасьцям на тарэлкі рукою. Падавалі на стол... Госьці пасядуць радачкам на лаву. Ні было стульяў, алі такія скамейкі доўгія быле: ад сьцянэ – да сьцянэ. Пасядуць так на тыя скамейкі людзі, а хазяін ідзе з водкаю, налівае ў такую рюмачку – называліся кілішкі. Стограмоўкаў не было, тыко кілішкі былі. А хазяйка – з тарэлкаю: на адной тарэлкі – хлеб, на другой – куском мяса нарэзана. І гэто кажды так возьме кусок як мяса, кусок як хлеба, закусіць. Яна кругом абыйдзе, і зь ёй пакуль другі раз выпіць. От такія былі свадзьбы! А як яшчэ мама мая жыла, то тут стаяла карчма, дзе цяпер наша хата. Ной па якіх ужо празьніках, то людзі йшлі ў карчму. Там заказвалі то водку, то піво.

### Калгас

Баяліся калхозу, ўсе баяліся. Давалі много грошай плацілі, мы самыя плацілі дваццаць пяць тысяч падаткаў. А ўжэ потым ні было з чого плаціць: плацілі-плацілі – ўсё! Яшчэ было чатэрэ залатнікe – і тыя занясла прадала, каб падатак аплаціць, каб у калхоз не ісьці.

А такія адытатары прыходзілі. То я помню, жэншчына была. І казала:" Помніце: не запісвайцеса первымі ў калхоз, но не ўступайце пасьледнімі. Бо первых, хто запішацца ў калхоз, то могуць гэтыя, хто проціў калхозу, могуць прыйсьці убіць. А есьлі запішацца пасьледнім – будзеш велькі налог плаціць".

Ну й плацілі.Засталіса босыя-голыя, бацько памёр – асталіса дзеці голыя-босыя з мацерай. І ўсё. Але плацілі.

Забралі ўсю землю. Аддалі нам па тры соткі такіх, як хата стаяла. А ўсю землю – пад калхоз. Пад саму хату засадзілі табакаю. А хто ўжэ, сьчыталі каго кулакамі такімі, то вывозілі на Сібір. А ўжэ мы былі такія серадняке – ад пятнаццаці да дваццаці гактараў зямле, - то ўжо б і нас, каб не вайна. Ужо на першуй лісьце мы былі.

Але потым хто астаўся жыць – нас адна сям'я. Адну вывезьлі: ён быў такім заслужаным за палякамі, меў крэст. І дастаў такую, называлі, калонію – усадзьбу там за вёскаю. І там сабе жыў ужо потымака. Саветы прышлі і забралі яго ў цюрму, а потым прыехалі – то і жонку зь дзецьмі. Быў мароз саракаградусны. Пагрузілі-пагрузілі ўсё на падводу. Сем падводаў вывезьлі. І яе пагрузілі зь дзецьмі. Заехалі ў сельсавет, афармілі дакументы і вывезьлі на Сібір. Іх потым польска пасольства забрало да Польскі...

### Кароткая гісторыя вёскі Зарачанкі

Тут , дзе ціпер стаіць касьцёл, тут стаяла такая царква. І яна (Зарачанка – прым. аўтара) называласа перша Баля Царкоўна. Яна і ў дакументах так значылася: Баля Царкоўна. Ну, ў тліццаць чацьвёртым року, потымака ўжэ, как адступалі рускія, ксёндз – называўся Антоні Баршчэўскі – прыехаў.

А сама перша заснавалі... Ага, тую царкву ўзарвалі, як рускія адступалі, палякі наступалі. Быў "цуд над Віслаю". Як рускія адступалі, палякі іх нагналі – рускія гэту цэркву ўзарвалі. Ціпер на гэтум мейсцы стаіць эты самы касьцёл наш. Можа, трошкі правее.

Але расказвалі старыке, што ўжэ тут былі такія уніяты. Вуніяцкі народ быў большы. Ну а рускія хацелі ўжэ, каб да цэрквы людзей загнаць. І на самым гэтым , дзе ціпер парк, дзе ліпы ў нас пасаджаны, залажылі такі баль велькі. Навязьлі водкі там, закускі – ўсяго, і наставілі сталэ, парабілі скамейкі. Заганялі сілай людзей. І том яна называецца Баля, што быў такі баль, фэст такі.

Том яна называласа Баля Царкоўна, бо цэрква стаяла. А потым, ужэ як прышлі палякі, дзета ў васімнаццатым годзе, ўжо ўсе пайшлі пад Польшчу тут у нас. І ўжэ перамінавалі.

А потым быў у нас такі прэдседацель Верабей. Такі срогі-срогі! Ну і гэто ім было ўсё раўно як трэска ў глазу, што Баля Касьцельна называецца. Я помню, мы самы хадзілі: не было такіх ужо камбайнаў, яшчэ ўпярод, як уступілі ў калхоз, былі жнейкі конныя. І жнейкамі коннымі жалі, а мы хадзілі снапэ вязалі. А ён прыехаў да нас на поля і от так кажэ (гэта ўжо шчыра праўда, гэта ўжо пры маёй бытнасьці было): " Значыць, ўласьці проціў, што гэта наша дзярэўня называецца Баля Касьцельна (это як сталіноўскія часы былі тыя). Хочуць, каб яна называлася Зарачанка. Таму што Неман, а мы ўжо за Неман. Рэка бальшая Неман..."



**Зарачанскі касьцёл**

**...І эта так яна тэрас і есьць – Зарачанка. Ну а ў касьцельных дакументах яна чысьліцца як Баля Касьцельна.**




# У пошуках герояў

Юрась Корыкаў

**Угодкі далучэньня Заходняй Беларусі да БССР сёньня лічацца адным з найважнейшых афіцыйных сьвятаў краіны. Як ведама, нашае грамадзтва прыняло ў спадчыну ад свайго савецкага прашчура бескампрамісны падзел усіх удзельнікаў тагачасных падзеяў на "нашых" і "нянашых", г. зн., на "герояў" і "злодзеяў". Таму, калі вяртацца да падзеяў верасьня 1939 году, то "нашымі" й "героямі" былі савецкія жаўнеры (дзе беларусаў па нацыянальнасьці амаль не было), а "нядобрымі" й "злодзеямі" – польскія войскі, якія не хацелі аддаваць з-пад свайго "буржуазна-памешчыцкага прыгнёту" землі беларусаў.**

Мала хто зь сёньняшніх гарадзенцаў задумваецца над тым, каго ж можна лічыць сапраўднымі героямі тых падзеяў і ці былі яны наагул. Здаецца, кропкі над "і" ўжо даўно расставілі. Даўно й назаўсёды. Але... Паспрабуйма разабрацца, што ж насамрэч адбывалася ў верасьні 1939 году ў Заходняй Беларусі, на якім-небудзь канкрэтным прыкладзе. Таго ж "вызваленьня" Горадні, калі разгарнуліся найбольш зацятыя баі паміж савецкімі й польскімі войскамі за ўсю верасьнёвую кампанію Чырвонай Арміі.

У прэсе тэных дзён можна адшукаць уражаньні ад прайшоўшых баёў камандзераў Чырвонае Арміі, зь якіх бачна даволі яскравую карціну баёў за наш горад у верасьні 1939 году. На гарадзенскім намрамку — мэханізаваная група Чырвонай Арміі, у складзе якой акрамя стралковых частак 5-ты (паводле іншых зьвестак – 15-ты) танкавы корпус (каля 150 танкаў) і 6-ты кавалерыйскі корпус ( каля 19 тыс. чалавек). Уначы 19 верасьня была занятая Ліда. Савецкія войскі рушылі ў кірунку Горадні. У 30-ці кілямэтрах ад места дарогу ім перакрылі батальён польскае пяхоты і эскадрон кавалерыі (усяго некалькі сотняў чалавек), падмацаваныя кулямётамі. Саветам нічога ня варта было задушыць супраціў гэткай параўнальна невялічкай купкі жаўнераў. Хаця камбрыг А. Разанаў і прызнаў, што палякі "дрались отчаянно". У самым месьце чырвонаармейцам супрацьстаяла каля трох тысяч польскіх ахвіцэраў і жандармаў, да якіх далучыліся жаўнеры з Усходняга й Заходняга франтоў.

Абарона Горадні складалася з трох ліній. Першая лінія знаходзілася у пяці кілямэтрах на ўсход ад места. Абаронцам удалося адбіць атаку матароты, падтрыманую бронемашынамі. Наступаючы бок атрымаў вялікія страты, але савецкія танкі, падыйшоўшы ў гэты момант, прабілі абарону. На ўсходніх ускрайках места знаходзілася другая лінія абароны, якую часткі Чырвонай Арміі танкамі абышлі з флянгаў і тылу. Такім чынам, па абедзе 20 верасьня савецкія войскі падышлі непасрэдна да Горадні.

У самым месьце абаронцы заселі ў цьвярдзі, касьцёлах, жылых будынках. Савецкія ахвіцэры спасылаліся на вялікую колькасьць у палякаў кулямётаў, але, між іншым, абаронцы места ня мелі ні танкаў, ані артылерыі (акрамя лёгкай). Наступоўцы, якія і па



колькасьці і па ўзбраеньню ў некалькі разоў пераўзыходзілі свайго праціўніка, да самай ночы не змаглі істотна прасунуцца ўглыб места. Чырвонаармейцы сустрэліся з новай, незнаёмай для іх тактыкай ворага - «бой з-за рогу». «Польские офицеры сопротивлялись отчаянно,.. даже их жены стреляли из окон, из-за угла», — піша той самы камбрыг. Наступоўцаў абстрэльвалі з усіх бакоў. Засеўшы ў будынках, на паддашшах і дахах, польскія жаўнеры і ахвіцэры выкарыстоўвалі гранаты, кулямёты, бутэлькі з бэнзынам. Увечары 20 верасьня і ў першай палове наступнага дню савецкая цяжкая артылерыя абстраляла касьцёл, вадакачку, цьвярдзь і казармы. Зроблена гэта было, нягледзячы на загад, які забараняў савецкім войскам бамбіць і абстрэльваць з гармат населеныя пункты. Падчас абстрэлу на 80% быў зьнішчаны абоз з маёмасьцю, падрыхтаваны да эвакуацыі.

На другі дзень баёў наступ Чырвонай Арміі, падтрыманы танкамі і цяжкай артылерыяй, працягнулася. Польскія часткі былі выбіты ў заходнюю частку места, але нават і тады працягвалі ўпарта абараняцца, пераходзілі ў контратакі й нават зрабілі спробу нанясеньня моцнага контраўдару. У рэшце рэшт, нягледзячы на ўпарты супраціў палякаў, далася ў знакі ўсебаковая перавага іхных праціўнікаў: 21 верасьня а 16.30 места было ўзятае савецкімі войскамі.

Амаль за суткі баёў палякі зьнішчылі 11 савецкіх танкаў, 47 чырвонаармейцаў было забіта і 156 паранена. Лічба стратаў жывой сілы Чырвонай Арміі падаецца заніжанай, калі ўлічваць зацятасьць узброенага сутыкненьня. У дадатак, маёр К.Вядзенскі паведамляў, што падчас баёў савецкія шэрагоўцы прызначаліся камандзерамі ўзводаў (пасада лейтэнанта) і нават рот (пасада старэйшага лейтэнанта ці капітана). Гэта можа сьведчыць ні аб чым іншым, як толькі аб вялікіх стратах сярод камандзерскага складу Чырвонай Арміі.

Такім чынам, слабаўзброеныя, амаль ня ўведзеныя ў баявыя часткі, ня маючы танкаў і самалётаў, польскія жаўнеры і ахвіцэры каля сутак біліся з шматкроць мацнейшым за іх праціўнікам. Яны разумелі, што Польшча прайграла вайну, ведалі, што немцы ўжо пад Беластокам, а Саветы акупавалі тэрыторыю так званых "крэсаў усходніх". І ўсё-ткі працягвалі ліць сваю кроў, ня здрадзіўшы прысязе, не спалохаўшыся ворага, адстойвалі тэрыторыю сваёй дзяржавы да апошняга.

Але гэта зусім ня значыць, што ўжо палякаў трэба аўтаматычна рабіць героямі нашае краіны. Так, яны геройскі баранілі наш горад у 1939-ым, але баранілі яго для Польшчы. Саветы, тады ж, таксама самаахвярна вызвалялі яго ад палякаў, але зноўку ж, рабілі гэта не для Беларусі, а для Савецкай імпэрыі. **Таму ўдзельнікі верасьнёўскіх падзеяў павінны зьяўляцца героямі вышэйпералічаных краін, а не героямі Беларусі, аб якой яны тады нават і ня думалі. А пакуль мы будзем рабіць сваімі героямі чужынцаў, яны будуць змагацца паміж сабой за нашу Беларусь зноў і зноў. А мы, як заўсёды, застанемся "на ласку пераможцаў".**




Мы выказваем шчырую падзяку Артуру Ганьку, Віталю Нікановічу (праект «Глябальны рух у інтарэсах дзяцей» RADA/VIT/UNISEF), Фэлу Гавіну, газэце «Glos znad Niemna», Юрасю Тарасевічу, Фліпэру, а таксама ўсім астатнім, хто спрычыніўся да стварэньня гэтага нумару. Спадзяемся на далейшае плённае супрацоўніцтва. Рэдакцыя.

Дзядзінец – непэрыядычнае выданьне маладых краязнаўцаў Гарадзеншчыны. Друкуецца ў беларускай мове. Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Рэдакцыя можа зьмяшчаць матэрыялы дзеля агульнага абмеркаваньня, не падзяляючы думкі аўтараў.
Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, Горадня, 230020, Беларусь.
Выдаецца пры тэхнічнай дапамозе ГА «Маладая Трамада» і ІАЦ «Генэрацыя» (г. Ліда)

Рэдактар: Валеры Руселік
Мастак: Алесь Суровы